

# ЯК АДПАЧЫВАЎ ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ

*М. І. УЛЬЯНАВА*

Владзімір Ільіч вельмі любіў усякія гульні на паветры: гарадкі, кракет. Зімою ён добра катаўся на каньках. У Сібіры, калі быў у ссылцы, ён наладзіў каток на рацэ.

Вельмі любіў ён ездзіць на веласіпедзе. Жывучы за граніцай, ён рабіў на веласіпедзе вялікія прагулкі. Аднаго разу ледзь не трапіў пад аўтамабіль. Нейкі неасцярожны шофер наляцеў на яго на сваім аўтамабілі. Владзімір Ільіч паспеў адскочыць, але веласіпед зусім зламаўся.

Таксама Владзімір Ільіч цікавіўся паляваннем. У Сібіры ён многа хадзіў са стрэльбай. Памятаю, ён некалькі разоў пісаў мужу старэйшай сястры, каб той дастаў яму добрага паляўнічага сабаку. Потым нехта яму дастаў сабаку, і ён шмат часу ўдзяляў яму.

Владзімір Ільіч наогул вельмі любіў кошак і сабак. Паляванне для яго было проста адпачынкам. Ужо пры совецкай уладзе ён іншы раз хадзіў на паляванне ў лясы каля Горак.

На паляванні бывалі цікавыя сустрэчы. Владзімір Ільіч адзяваўся зусім проста. Ідзем, сустракаецца які-небудзь селянін ці сялянка. Владзімір Ільіч заўсёды распытваў у іх аб розных мерапрыемствах совецкай улады або проста гутарыў.

Памятаю, у 1918 годзе, каб трохі адпачыць у святочныя дні, мы бралі з сабою бутэрброды і ехалі на машыне за горад. Часцей за ўсё ў Барвіху. Прыедзем у вёску—бягуць рэбята: „Падвязі, падвязі!“ Владзімір Ільіч насаджае поўную машыну дзетвары і яны, задаволеныя, едуць да другой вёскі. Наогул дзяцей ён любіў. Сваіх у яго не было, але з пляменнікамі заўсёды гуляў з ахвотай. За граніцай прыходзілі к яму маленькія прыяцелі. Ён гуляў з імі і гутарыў.



*Максім Горкі з унукамі (1932 г.)*



# ПЕРШЫЯ РОЗГІ

## МАКСІМ ГОРКІ

Аляксею Максімавічу было чатыры гады, калі памёр яго бацька. Маці вымушана была вярнуцца жыць к свайму бацьку Кашырыну, скупому і сярдзітаму дзеду, які да крыві сек унукаў за самую нязначную віну. Сваё горкае жыццё ў сям'і дзеда Аляксей Максімавіч апісаў у аповесці „Детство", урывак з якой мы друкуем.

... Аднойчы дзед запытаўся:

— Ну, Алёшка, чаго сягоння рабіў? Гуляў! Бачу па гузаку на ілбе. Гэта невялікая мудрасць гузак нажыць! А „Отча наш"[1] вывучыў?

Цётка ціханька сказала:

— У яго памяць дрэнная[2].

Дзед усміхнуўся, весела прыўзняў рыжыя бровы:

— А калі так,—высекчы трэба,

І зноў запытаўся ў мяне:

— Цябе бацька сек?

Не разумеючы, аб чым ён гаворыць, я прамаўчаў, а маці сказала:

— Не, Максім не біў яго, ды і мне забараніў.

— Гэта чаму-ж?

— Казаў, біццём не навучыш.

[1] „Отча наш"—назва царкоўнай малітвы.

[2] Алёшка не любіў вучыць малітвы, і цётка парашыла, што ў яго дрэнная памяць. (*Рэд.*)

— Дурань ён быў ва ўсім, Максім гэты, пакойнік, даруй госпадзі!—злосна і выразна прагаварыў дзед.

Мяне пакрыўдзілі яго словы. Ён заўважыў гэта.

— Ты што губы надзьмуў? Эйш ты...

І, пагладзіўшы срабрыста-рыжыя валасы на галаве, ён дадаў:

— А я вось у суботу Сашку за напарстак пароць буду [1].

— Як гэта пароць?—запытаўся я.

Усе засмяяліся, а дзед сказаў:

— Пачакай, убачыш.

Прытаіўшыся, я думаў: пароць, значыць расшываць плацці, аддадзеныя ў фарбоўку, а секчы і біць—адно і тое-ж, мусіць. Б'юць коней, сабак, кароў; у Астрахані будачнікі б'юць персіян,—гэта я бачыў. Але я ніколі не бачыў, каб так білі маленькіх дзяцей, хоць тут дзядзькі стукалі сваіх то ў лоб, то ў патыліцу,—дзеці адносіліся да гэтага абыякава, толькі пачухвалі пабітае месца...

---

Да суботы я таксама паспеў правінавацціца. Мяне вельмі цікавіла, як спрытна дарослыя мяняюць колеры матэрый: бяруць жоўтую, мочаць яе ў чорнай вадзе, і матэрыя робіцца густа-сіняй—„кубавай“; палошчуць шэрую ў рыжай вадзе і яна становіцца чырванаватай—„бардо“. Проста, а—незразумела.

Мне захацелася самому афарбаваць штонебудзь і я сказаў пра гэта Сашу Якаваму, сур'ёзнаму хлопчыку; ён заўсёды трымаўся на відавоку ў дарослых, з усімі ласкавы, гатовы кожнаму як мага дагадзіць. Дарослыя хвалілі яго за паслушэнства, за розум, але дзед глядзеў на Сашу скоса і гаварыў:

— Які падхалім!

Даведаўшыся, што я хачу заняцца рамяством фарбоўшчыка, ён параіў мне ўзяць з шафы белую святочную настольніцу і афарбаваць яе ў сіні колер.

— Белая лягчэй за ўсё фарбуецца, ужо я ведаю!—сказаў ён вельмі сур'ёзна.

Я выцягнуў цяжкую настольніцу, выбег з ёю на двор, але калі апусціў край яе ў чан з „кубавай“, на мяне наляцеў аднекуль Цыганок [2], вырваў настольніцу і, аджымаючы яе шырокімі лапамі, крыкнуў брату, які сачыў з сянец за маёй работай:

— Кліч бабулю хутчэй!

І, ківаючы чорнай, лахматай галавою, сказаў мне:

— Ну і пападзе-ж табе за гэта!

Прыбегла бабуля, завохала, нават заплакала, смешна лаючы мяне:

— Ах ты, пярмяк, салёны вушы! Каб цябе ўзняло ды шлёпнула!

Потым стала ўгаварваць Цыганка.

— Хаця ты, Ваня, не кажы ўжо дзеду! Ужо я схаваю гэта; можа, абыдзецца якнебудзь...

Ванька заклапочана гаварыў, выціраючы мокрыя рукі рознакаляровым фартухом:

— Мне што? Я не скажу; глядзіце, Сашка не набрахаў-бы!

— Я яму пятак дам,—сказала бабуля, ведучы мяне ў дом.

У суботу, перад усяночнай, хтосьці прывёў мяне ў кухню; там было цёмна і ціха. Памятаю шчыльна зачыненыя дзверы ў сенцы і ў пакоі, а за вокнамі шэрую муць асенняга вечара, шорах дажджу. Перад печчу на шырокім услоне сядзеў сярдзіты, непадобны на сябе Цыганок; дзед, стоячы ў кутку, каля ночваў, выбіраў з вядра з вадою даўгія дубцы, мераў іх, складваючы адзін з другім і са свістам размахваў імі па паветры. Бабуля, стоячы дзесьці ў цемені, голасна нюхала табаку і мармытала:

— Ра-ад... мучыцель...

---

[1] Сашка нагрэў напарстак, якім дзед апёк руку. (Рэд.)

[2] Прыёмны дзедаў сын, падкідыш. (Рэд.)

Саша Якаваў, седзячы на крэсле сярод кухні, цёр кулакамі вочы і не сваім голасам, нібы старэнькі жабрак, цягнуў:

— Даруйце, хрыста радзі...

— Высеку,—дарую,—сказаў дзед, прапускаючы даўгі вільготны прут праз кулак.— Ну, скідай штаны!..

Гаварыў ён спакойна і ні гук яго голаса, ні ёрзанне хлопчыка на скрыпучым крэсле, ні шарканне ног бабулі,—нішто не парушала памятнай цішыні ў змрочнай кухні, пад нізкай закопчанай столлю.

Саша ўстаў, расшпіліў штаны, спусціў іх да кален і, падтрымліваючы рукамі, сагнуўшыся, спатыкаючыся, пайшоў да ўслона. Глядзець, як ён ідзе, было нядобра, у мяне таксама дрыжэлі ногі.

Але стала яшчэ горай, калі ён пакорліва лёг на ўслон уніз тварам, а Ванька, прывязаўшы яго да ўслона пад пахі і за шыю шырокім ручнікам, нахіліўся над ім і схапіў чорнымі рукамі ногі яго ля шчыкалатак.

— Ляксей,—паклікаў дзед,—ідзі бліжэй!.. Ну, каму кажу?.. Вось глядзі, як сякуць... Раз!..

Невысока ўзмахнуўшы рукою, ён шлёпнуў дубцом па голаму целу. Саша завойкаў.

— Брэшаш,—сказаў дзед,—гэтак не баліць! А вось гэтак забаліць!

І ўдарыў так, што на целе адразу загарэлася, успухла чырвоная палоса, а брат працяжна завыў.

— Не соладка?—пытаўся дзед, роўнамерна падымаючы і апускаючы руку. Не любіш? Гэта за напарстак!

Калі ён узмахваў рукой, у грудзях у мяне ўсё ўзнімалася разам з ёй: падала рука— і я ўвесь нібы падаў.

Саша пішчэў страшна тонка, агідна:

— Не буду-у... Я-ж вам сказаў пра настольніцу... Я-ж сказаў...

Спакойна, нібы псалтыр[1] чытаючы, дзед гаварыў:

— Данос—не апраўданне! Даношчыку першы бізун. Вось табе за настольніцу!

Бабуля кінулася ка мне і схапіла мяне на рукі, закрычаўшы:

— Ляксея не дам! Не дам, звер!

Яна стала біць нагою ў дзверы, клічучы:

— Вара, Варвара!..

Дзед кінуўся да яе, збіў яе з ног, выхапіў мяне і панёс да ўслона. Я трапятаўся ў руках у яго, рваў рыжую бараду, укусіў яму палец. Ён роў, ціскаў мяне і, нарэшце, кінуў на ўслон, разбіўшы мне твар. Памятаю дзікі яго крык:

— Прывязвай! Заб'ю!..

Памятаю белы твар маткі і яе вялізныя вочы. Яна бегала каля ўслона і хрыпела:

— Тата, не трэба!.. Аддайце...

---

Дзед засек мяне да страты прытомнасці, і некалькі дзён я хварэў, валяючыся ўверх спіною на шырокай гарачай пасцелі ў маленькім пакойчыку з адным акном.

Дні нездароў'я былі для мяне вялікімі днямі жыцця. У працягу іх я, мабыць, здорава вырас і адчуў нешта асаблівае. З тых дзён у мяне з'явілася неспакойная ўвага да людзей і, нібы мне садралі скуру з сэрца, яно стала незвычайна чулым да ўсякага болю і крыўды, сваёй і чужой.

[1] Псалтыр—царкоўная кніга.



# МАЕ ЗАБАВЫ

Верш З. БЯДУЛІ.

Рыс. І. ДАВІДОВІЧА

Па даліне, па лужочку
Ездзіць я люблю,
Я з дубовага кіёчка
Коніка зраблю.

Гайда, гайда, буланенькі,
Аж у цёмны бор.
І ляціць кіёк мой ценькі,
Проста як віхор.

Аж дрыжыць, шуміць зямліца,
А я скок ды скок!
А са мною весяліцца
Жучка—мой дружок.





# Аксіс

Апавяданне А. ПЯТРОВА
Рысункі К. ГЕДДЫ

Быў незвычайна гарачы дзень. Сонечныя праменні прабіваліся скрозь лісце і плямамі гулялі на траве.

Аксіс[1] мучыла смага. Яна ляжала з дзіцём на ўскраі лесу. Над кустамі ўзнімаліся велізарныя дрэвы, абвітыя гнуткімі ліанамі. На іх галінах гайдаліся малпы; яны няспынна балбаталі і займаліся хатнімі справамі: шукалі адна ў другой блох, калыхалі дзяцей і ласаваліся арэхамі. На сухой галінцы аднаго дрэва спакойна сядзеў каршун з белай, нібы фарфаравай галавою.

Аксіс не вытрымала і ўсхапілася на ногі. Яна доўга прыслухоўвалася і абнюхвала лясны пах. Дзіцё ляжала ў траве, пад кустом. Аксіс лізнула яго ў патыліцу. Дзіцё паспрабавала ўстаць, але маці ткнула яго мордай у траву; яно паслухмяна лягло і выцягнула даўгую шыю.

Аксіс лёгкаю хадою спусцілася да рэчкі. На мелкіх месцах важна хадзілі ружовачырвоныя фламінго; яны раз-по-разу апускалі доўгія шыі і даставалі з дна нейкую спажыву.

Нешта цёмнае мільганула ў вадзе каля самых ног аксіс. Яна спалохана падалася назад. У той-жа момант з вады вынырнула страшная галава кракадзіла. Ён злосна ляснуў зубамі і апусціўся на дно.



У кустах аксіс наткнулася на буйвалаў. Бурыя веліканы па самыя спіны залезлі ў рэдкую гразь. Па іх шпацыравалі беласнежныя чаплі. Яны лавілі мух, якія хмарамі кружыліся над буйваламі. Буйвалы, здавалася, не заўважалі чапляў і толькі міргалі вачыма, калі

[1] Плямістыя алені; водзяцца на востраве Цэйлоне і ў Індыі.



яны, прамахнуўшыся, моцна дзяўблі ў шырокія насы.

Аксіс не баялася буйвалаў і спакойна прайшла міма важака, старога байца, што ляжаў у цяньку дрэва. Яна ўзыходзіла на ўзгорак, калі вецер прынёс пах, ад якога аксіс скаланулася. Яна стала, як укопаная і трывожна заварушыла ноздрамі і вушамі. Пах даносіўся з далёкіх зараснікаў бамбуку: ён то прападаў, калі вецер паварочваў убок, то зноў з'яўляўся і нібы змяіным ядам атручваў пах зелені. Ён далёка разносіўся па ўзгорках і папярэджваў жывёлу пра небяспеку.



Вецер павярнуў у лагчыну. Цяпер аксіс адчувала пах буйвалаў. Але вецер зрабіў сваю справу: аксіс цвёрда ведала, што ў бліскучазялёных лісцях бамбуку хаваецца самы люты вораг аксісаў і іх дзяцей—леапард.

Сэрца аксіс сціснулася ад страху. Хутчэй да дзіцяці! Яна лёгкімі скачкамі паднялася на ўскрай лесу. Дзіцё ляжала на тым-жа месцы, дзе яна пакінула яго. Раптам малпы трывожна залапаталі. Самкі схапілі дзяцей і ўскарабкаліся вышэй на ліяны, а самцы з ваяўнічым выглядам збегліся на канцы галін. Каршун стаў паварочваць ва ўсе бакі белую галаву.

Аксіс павяла вушамі. Яна ведала, што малпы хвалююцца не дарэмна. Відома, яны заўважылі леапарда, якога ненавідзелі і баяліся не менш, чым яна. Значыць, вораг вышаў з зарасніку. Але дзе ён знаходзіцца? Ах, калі-б вецер падзьмуў з боку рэчкі!

Малпы хваляваліся. Яны то ўзбягалі на верхавіны дрэва, то стрымгалоў лёталі па галінах. Старыя самцы білі сябе кулакамі ў грудзі. Гэта паказвала на тое, што яны вельмі ўстрывожаны. У іх галасах гучэла лютасць.





Леапард вышаў з бамбукавага гушчару. Ён быў галодны і раз'юшаны. Вецер паведаміў яму, што на ўскраі лесу хаваецца аксіс. Леапард спусціўся ў роў і з падветранага боку пачаў прабірацца на ўзлессе. Але ён не ўзяў пад увагу малпаў. Ён нават завурчэў ад злосці, калі пачуў іх галасы. Праклятыя крыксы! Яны могуць сапсаваць усю справу. Навошта яны гарланяць? Хіба яны не ведаюць, што леапарды палююць на іх толькі ўночы?

Аксіс, не зводзячы вачэй, глядзела на бераг рэчкі. Раптам вецер, нібы злітаваўшыся, змяніў напрамак. Страшны пах леапарда прымусіў аксіс падскочыць. Яна хутка павярнулася. На беразе рову варушылася трава, па якой прабіраўся вялікі звер...

Усё памутнела ў вачах аксіс. Яна замітусілася навокал дзіцяці, не ведаючы, на што адважыцца: дзіцё было вельмі малое, каб бегчы за ёю, а ў яе не было сілы абараніцца. Аксіс то выбягала з-за кустоў, то варочалася да дзіцяці і наспех абнюхвала яго.

Вораг набліжаўся. Ён быў неўмалімы, як смерць. Праз хвіліну-дзве ён выйдзе з травы ў цянёк дрэў. Што рабіць?

Заміраючы ад страху, аксіс трушком пабегла насустрач леапарду. Можа ўдасца заманіць яго далей ад лесу? Вядома, аксіс рызыкавала жыццём, але-ж справа ішла аб выратаванні дзіцяці.

Леапард убачыў аксіс і прылёг у траве. Кончык яго хваста варушыўся ад усхваляванасці. Сама здабыча ішла да яго ў лапы! Абы толькі не выдаў вецер.

Аксіс спынілася, зрабіўшы выгляд, што скубе траву. Леапард папоўз да яе. Толькі спрактыкаванае вока магло-б заўважыць яго сярод мора зелені. Але малпы бачылі ворага і надрываліся ад крыку, нібы хацелі папярэдзіць аксіс. Яна скубла траву і шаг за шагам набліжалася да рэчкі.

Леапард папоўз хутчэй. Вось ён мінуў кусты; вось змяёю праслізнуў між каменняў. Яшчэ некалькі быстрых шагоў... Звер скурчыўся ў камяк і намацаў лапамі пункт апоры.

Аксіс не ўстаяла і хутчэй ветру памчалася да рэчкі. Леапард злосна замалаціў хвастом па траве. Ён быў так упэўнены, што яму ўдасца схапіць аксіс! А ўсё малпы! Іх шалёны канцэрт мог перашкодзіць найлепшаму паляванню.

Каля кручы аксіс спынілася. Яна дрыжэла з галавы да ног, але прымусіла сябе сарваць некалькі травінак.

Леапард пастаяў у нерашучасці. Яшчэ раз падкрасціся, ці не варта. Пах аксіс раздражняў апетыт звера; ён зноў папоўз у траве, але больш асцярожна, чым раней.



Аксіс не вытрымала. Яна адбеглася трохі далей і напружана заварушыла вушамі, стараючыся вызначыць месца, дзе знаходзіўся вораг. Леапард падкраўся да аксіс з боку рэчкі. Шум ветру заглушаў пахрустванне пад лапамі сухіх лісточкаў. Аксіс стаяла ў зарасніку квяцістай мімозы і глядзела ў другі бок. Вецер нібы здзекваўся з яе. Ён раптоўна налятаў з гары, прыносячы з сабою пах малпаў і свайго дзіцяці.



Драпежнік зарычэў і кінуўся на здабычу. Аксіс была напагатове. Яна ірванулася ў бок і памчалася па беразе рэчкі.

Леапард зразумеў, што Аксіс хітрыла: яна адводзіла яго ад дзіцяці, якое схавала на ўскраі лесу. Тым лепш: з дзіцём менш клопату і яно не менш смачнае, чым маці.

Леапард павярнуўся і пайшоў да лесу. Аксіс задрыжэла. Усё скончана — ёй не ўдасца адвесці далей леапарда! Яна куляю перасекла яму шлях. Леапард і вухам не павёў. Даволі! Няхай водзіць за нос каго-небудзь іншага, яму надакучыла гэта гульня.

Аксіс спынілася так блізка, што леапард мог адным скачком насцігнуць яе. Нічога не кранае! Аксіс падышла яшчэ бліжэй. Яе цёмныя вочы пашырыліся ад жаху і ў маладым целе дрыжэла кожная жылка. Яна аддавала ворагу сваё жыццё; што яшчэ магла прапанаваць няшчасная матка для выратавання дзіцяці?

Малпы шалёна крычалі і кідалі ў леапарда кавалкі галінак. Каршун апусціў сваю фар-



фаравую галаву: ён смакаваў багатую для сябе здабычу.

Леапард раптам прыпаў да зямлі. Яна хоча смерці? Няхай! Аксіс адскочыла, але спатыкнулася аб камень і паваліліся...

... Што здарылася? Чаму леапард не скокнуў? Ён стаў, як укопаны, і ўстрывожана павярнуў галаву да рэчкі. Адтуль пачуўся трэск кустоў і тупат дзесяткаў магутных ног.

Здарылася тое, што вецер, той самы вецер, які выдаў аксіс, паведаміў пра леапарда буйвалам. Стары важак усхапіўся на ногі і ўбачыў леапарда. Яго вочы наліліся крывёю. Дык вось чаму крычаць малпы! Подлая кошка падкрадваецца да буйвалят! Смерць ёй! Грозны рэў страсянуў паветра. Стада сарвалася з месца. Самкі кальцом абкружылі буйвалят, а самцы кінуліся за важаком у атаку.



Леапард збянтэжана азірнуўся. Ён ведаў, што такое атака буйвалаў. Калі ён не выбіцца, гэтыя рагатыя стварэнні растопчуць яго на блін. Не марудзячы ні хвіліны, леапард вялікімі скачкамі даў драла ў лагчыну. За ім з шумам і рэвам памчаліся буйвалы.

Аксіс пабегла да дзіцяці. Яно паднялося ёй насустрач і прыветліва замахала хвосцікам. Аксіс аблізала яго і, напаіўшы малаком, павяла ў даліну рэчкі.

# ЛЕТАМ

*Я. ЖУРБА*

Ласкава зірнула
Зранку ў хату сонца
І заззяла ясным
Бляскам на аконцы.

У зялёны гай мы
Пойдзем сёння, дзеткі:
Ягады ўжо ёсць там
І красуюць кветкі.

Там іскрыцца срэбрам
Рэчка на прасторы.
Запяём мы ў гаі
Песню дружным хорам.

Будуць пець вясёла
Разам з намі птушкі;
З намі загамоняць
І жучкі, і мушкі.

# МУЗЫКІ

*Народная казка*

Апрацоўка Я. КОЛАСА

Рысункі К. ГЕДДЫ

Жылі былі асёл, сабака, кот і певень.

Калі яны пастарэлі, дык гаспадары павыганялі іх з двара. Вось раз уночы сышліся ў лесе гэтыя выгнаннікі. Пазнаёміліся, здружыліся. Пачалі думаць, як на свеце ім жыць, чым заняцца. Самы разважлівы з іх, асёл, і кажа:

— А давайце спрабуем быць музыкамі.

Усім спадабалася такая думка, бо кожны з іх лічыў сябе артыстам у справе музыкі І сапраўды-ж: певень, як вядома, спявак з уроды, кот таксама, а сабака не толькі гаўкае, але і выць умее. Ну, і асёл з голасам, іначай ён і думкі такой не падаваў-бы. Выстраіліся прыяцелі і пайшлі: асёл паперадзе, сабака за аслом, кот за сабакам, а певень за катом. Ідуць яны, аж бачаць—далёка ў лесе хата стаіць. Спыніўся асёл.

— Давайце заспяваем!—кажа ён:—сядайце на мяне!

Разагнаўся сабака, ускочыў на спіну аслу, кот сеў на сабаку, а певень на ката, ды як гаркнулі ўсе разам, ды на свой лад, дык аж лес задрыжэў. Звяры папалохаліся і пахаваліся хто куды.

— Добра вышла!—пахваліў асёл.

Падышлі яны да самай хаты.

— Пачынай!—камандуе асёл.

Як грымнулі музыкі, дык аж хата затрэслася. А ў той хаце жылі бандыты. Папужаліся яны і кінуліся наўцекі. Адчыніў асёл дзверы і ўся капэла ўвайшла ў хату. А там яды і featured розная дабра не злічыць. Наеліся, напіліся артысты і пачалі нанач ладзіцца.

— Як я заўсёды на сметніку сплю, дык і сёння я лягу на сметніку,—кажа асёл.

— А я прывык спаць каля дзвярэй, дык і тут каля дзвярэй лягу,—азваўся сабака.

— А мне месца заўсёды на прыпечку, і сёння займу я прыпечак,—падае голас кот.

— А я прымайструюся на жэрдачцы пад страхой: такі ўжо звычай завялі мае бацькі і дзяды,—кажа пеўнік.

Размясціліся сябры і паснулі.

А бандыты гэтым часам у лесе стаіліся ды разважаюць, хто-ж гэта перапалохаў іх і што сталася з іхняю хатай. Пасылаюць аднаго бандыта.—Ідзі, кажуць, праведай, што там робіцца.

Падыходзіць бандыт да сваёй хаты. Ціха, нічога не чуваць. Заходзіць у хату—цёмна, нічога не відаць. Дастаў ён з печы смалячок, ідзе да прыпечка, каб агонь запаліць. Аж бачыць—два вугольчыкі блішчаць. Хацеў выгарнуць, а кот кіпцюрамі як драпане па руцэ! У таго і кроў пайшла. Кінуўся бандыт з хаты, а каля парога сабака як рване яго за сцягняк. А тут і пеўнік як зляціць з жэрдачкі, ды як дзюбане бандыта па галаве! Бандыт кулём за плот коціцца, а там асёл як штурхане яго нагою! Бандыт разоў тры перакуліўся ды бегчы ў лес! Прыбягае і расказвае.

— Быў я ў нашай хаце—бяда! Нейкая сіла заняла яе! Хацеў на прыпечку вугольчыкі раздзьмухаць, аж нехта шась мяне нажом па руцэ. Кінуўся ўцякаць, а мяне хтось каля парога па назе шабляй. А другі як д'ябал з-пад страхі вырваўся, ды кап'ём мне ў галаў. Цераз плот пераскочыў, а там хтось даўбешкай як стукнуў мне, разоў тры перакуліўся я... Прапала наша хата! Уцякайма!

Паўцякалі з гэтага лесу бандыты, і іх палавілі. А спевакі абсталяваліся ў той хаце, жывуць-пажываюць і бяды-ліха не знаюць.

*Запісаў Стась Шулякоўскі (калгас „Звязда“, Любаньскага раёна).*




# Беражанкі

Апавяданне АЛ. ПАЛЬЧЭЎСКАГА
Рысункі К. ГЕДДЫ

За хвіліну ўвесь лагер абляцела трывожная вестка: з рэчкі не вярнуліся Лёнька і Валодзя, піонеры з другога атрада. І выявілі гэта толькі цяпер, прышоўшы назад. Рэбяты сталі прыпамінаць, хто іх дзе бачыў апошні раз, пачаліся здагадкі, куды-б яны маглі падзецца, але пэўна ніхто нічога не ведаў.

Начальнік лагера, высокі хлапчына, выслухаў усё, супакоіў рэбят, сказаў ім ісці абедаць, а сам разам з важатым Міцям і фізкультурнікам Грышам пайшлі на пошукі.

— Трэба-ж так здарыцца, — непакоіўся Міця,— адзін раз не пайшоў і такая бяда... І прасіў-жа Косцю, каб глядзеў і за маімі рэбятамі... Вось ён і наглядзеў... Каб ведаў, не пайшоў-бы на пошту і не даручаў-бы яму свайго атрада...

— Ты не хвалюйся вельмі. Можа яны спяць дзе-небудзь у кустах пад сонцам,— суцяшаў Грыша, а сам не менш трывожна азіраўся па баках.

Але Міця ведаў—не такія Лёнька і Валодзя рэбяты, каб маглі спаць дзе-небудзь. Іх і ў „мёртвую гадзіну“ ледзь супакоіш.

Вадодзя і Лёнька здружыліся ў лагеры і здружыліся, трэба сказаць, хутка, з першых дзён. Абодва былі ў адным атрадзе, абодва наведвалі гурток юных натуралістаў. Вечарамі разам назіралі як заходзіць сонца, як развітваецца яно з іхнім лагерам да заўтрашняй раніцы...

— Прыглядайцеся лепш, можа яны дзе парэчкі рвуць,—раіў начальнік лагера, калі падышлі да рэчкі.

Усе пільна ўзіраліся, але ні хлопцаў, ні іхняга адзення нідзе не відаць было.

Куды-ж ісці шукаць цяпер?—паўстала пытанне перад шукальнікамі. Праз момант яны разышліся ў розныя бакі. Міця пайшоў берагам уверх, а Грыша і начальнік лагера ўніз па цячэнню.

... Усё рабілася так, як было ўмоўлена. Хлопцы вылезлі першымі на бераг, узялі вопратку—саколкі і трусы—і бягом, нібы дагапяючы адзін аднаго, пабеглі ў лазу. Там скоранька адзеліся, агледзеліся навокал, і, упэўніўшыся, што ніхто не звярнуў на іх увагі, пайшлі ўверх па высокім беразе рэчкі.

Што ні шаг—усё прыгажэйшыя мясціны рассціліліся перад імі. То над самаю рэчкаю з другога берагу густа нахіляліся купчастыя вербы, то высока ўгору ішоў пакат з зялёнымі каржакаватымі хвойкамі, то шырокія прасторы зелянелі ў далі.

— Колькі ўсяго цікавага навокал,—не мог утрымацца Лёнька.—Я, калі вырасту, абавязкова буду даследчыкам: паеду на Урал, у Туркестан, у Арктыку...

Валодзя ўсміхнуўся:

— Ты марыш аб далёкім, а нават не ведаеш, што каля нашага лагера ёсць, хоць мы і жывем тут скора месяц... Падзякуй, што прывёў цябе сюды, а то і дахаты паехаў-бы, не ўбачыўшы такога хараства.

— Ты прывёў,—скрывіўся Лёнька,—а не я цябе падгаварыў ісці.

Хлопцы заспрачаліся і забыліся на ўсё. І невядома, колькі-б яны так ішлі, каб не затрымала іхняй увагі адно здарэнне, на першы погляд зусім нязначнае. Бурыя, пад колер зямлі, берагавыя ластаўкі, ці як іх называлі тут—беражанкі, увесь час вываліся над вадой, пабліскваючы сваім белым паласатым жывоцікам. „Шэрр! Шэрр!“—парушаў цішыню летняга дня іхні голас. Спачатку Лёнька з Валодзям не заўважалі птушак, але калі адна з іх мільганула ля самага берагу і тут-жа знікла, нібы скрозь зямлю праваліласа,—гэта іх зацікавіла.

— Дзе яна?—здзіўлена паглядзеў Валодзя на Лёньку.

— Глядзі, і другая прапала тут,—паказаў Лёнька рукою на бераг замест адказу.

Гэтых слоў даволі было, каб Валодзя раптам апынуўся ўнізе. Ён глянуў на выкапаныя ў крутым беразе норы і атарапеў ад нечаканага малюнку. Валодзя ведаў шмат гнёздаў у кустах, каля сваёй рэчкі, а вось каб птушкі вяліся ў зямлі—гэта ён бачыць упершыню.

— Ай-ёй, што тут робіцца! Злазь сюды, Лёня!—гукнуў Валодзя.

Умомант Лёнька саскочыў уніз і быў здзіўлен не менш за свайго таварыша: увесь бераг свіціўся жоўтымі дзіркамі.

— Тут яны недзе,—паказаў Валодзя на цэлае гняздо нор.

— Ціха!—падняў Лёнька палец угору.—Мы іх зловім і возьмем з сабою. Толькі ў якой-жа яны нары?.. Бяры вунь дубчык хутчэй.

Валодзя падняў сухі дубчык, а Лёнька зняў шапку, і хлопцы приступілі да работы. Падыйдуць да нары, Лёнька наставіць шапку, а Валодзя варушыць дубчыкам у нары—пужае птушак. Так перабралі яны некалькі нор, але птушак не было. Хлопцы разачараваліся і ўжо хацелі кінуць сваю забаву, але ў гэты час перад імі з суседняй нары выткнулася смелая беражанка. Яна зірнула ў адзін бок, у другі, сцерухнулася ад пяску, шэркнула, і паляцела нізенька над вадою, разявіўшы рот.

— Вунь яны дзе вядуцца! — усклікнуў Лёнька і паспяшыў да нары, з якой вылецела птушка.

— Асцярожна ступай, а то скоцішся ў ваду,—перасцерагаў Валодзя, ідучы ўслед за Лёнькам.

— Ну, спрабуй дубчыкам,—звярнуўся Лёнька да падышоўшага Валодзі і прыставіў сваю шапку. Валодзя паварушыў у нары—усё спакойна.

— Можа не адгэтуль вылецела?

выходзіць. Тады кідаюць гэта месца, шукаюць мякчэйшай зямлі і пачынаюць работу нанава...



— Адгэтуль,—азваўся раззлаваны Лёнька,—я добра заўважыў. Давай хіба раскапаем нару, паглядзім.

— А на абед не спознімся?

— Мы хутка. Раз-два,—запэўніў Лёнька і зараз-жа, адшукаўшы вострую трэсачку, узяўся раскопваць нару. Валодзя прыгнуўся збоку і пачаў выгортваць рукою пясок.

---

Глыбокія норы выкопваюць беражанкі. Не мала працы каштуе гэта ім. Добра, калі зямля трапіцца мяккая—тады справа ідзе лёгка. А сустрэнецца цвёрдая—дзяруць яны па чарзе кіпцюрыкамі, дзяруць і нічога не выходзіць. Тады кідаюць гэта месца, шукаюць мякчэйшай зямлі і пачынаюць работу нанава...

У мяккім гняздзе, высланым пухам і валаснёю, сядзіць цяпер самка-беражанка. Праз кругленькую дзірку бачыць яна кружок сіняга неба і цешыць сябе, што неўзабаве і сама будзе лятаць над рэчкай, лавіць мошкі для дзетак.

І раптам пацямнела ў нары. Беражанка нарыхтавалася прыняць яду, разявіла роцік, але... што гэта такое? Праходзіць хвіліна, другая, а яго няма. Яна ціханька азвалася—адказу няма. Тады яна яшчэ больш трывожна пачала прыслухоўвацца да незнаёмага шоргату і галасоў, яшчэ мацней прытулілася да гнязда.

Нялёгка было глядзець і самцу на разбурэнне гнязда. Ужо даўно паглытаны налоўленыя мошкі, ужо некалькі разоў падлятаў ён да нары, але Валодзя і Лёнька ні на што не звярталі ўвагі. Не адчувалі хлопцы, якую бяду прыносілі яны птушкам сваёй цікавасцю.

Больш за метр пракапалі Лёнька з Валодзям углыбкі. Ужо зусім блізка гняздо, але беражанка сядзіць, не кратаецца з месца—спадзяецца, можа пакінуць яны сваю работу, можа не ўбачаць яны яе. І толькі тады, як на пер'е пасыпалася сырая зямля, птушачка не вытрымала больш: яна кінулася на шырокую палосу святла, узмахнула крылцамі і, ударыўшыся аб Лёнькаў твар, тут-жа ўпала. Лёнька ўскрыкнуў ад нечаканасці, адкінуў назад галаву, хапіўся за запарушаныя вочы і... не ўтрымаўшыся, пакаціўся ўніз па крутым схіле берагу.

---

Здарылася ўсё так раптоўна, што Валодзя не адразу ўявіў гэту бяду. Ён толькі тады апамятаўся, як Лёнька закрычаў немым голасам:—„А-ай!“

Усхапіўшыся, Валодзя азірнуўся навокал і закрычаў мацней за Лёньку:

— Рату-у-уйце!

Потым схапіў ляжаўшую поблізу дубовую галінку і, нахіляючыся правым бокам да берагу, каб не паляцець у ваду і самому, паспяшыў на дапамогу таварышу.

Вада закружыла перапалоханага Лёньку і адкінула пад сярэдзіну рэчкі. Пакуль Валодзя спусціўся з берагу, дык галіна, якой ён намерваўся выратаваць таварыша, аказалася ўжо кароткаю. Доўга не думаючы, Валодзя кінуўся ў рэчку.

— Бярыся, Лёнька, да берагу!

Праз хвіліну ён быў ужо каля самага Лёнькі.

— Давай руку!—гукнуў ён, але Лёнька закружыўся ў віры і знік у вадзе.

„Утапіўся!“—мільганула думка ў Валодзі.

Аднак праз момант бурлівы вір выкінуў Лёньку на паверхню вады. Валодзя ўхапіўся левай рукой за яго валасы і крыкнуў над самым вухам:

— Гартай смялей!

Лёнька напружыў цела, гартануў некалькі разоў пад сябе ваду і зноў пачаў апускацца, слабець.

— Не, брат, цяпер ты не вырабішся з маіх рук,—запэўніваў Лёньку Валодзя,—я цябе дастаўлю на бераг.

Але даставіць Лёньку на бераг было не так лёгка. Вада гнала хлопцаў уніз па цячэнню—сілы былі няроўныя.

* * *

У гэты час на дапамогу падаспеў Міця. Ён бягом бег, як пачуў трывожны Валодзяў крык.

— Трымайся, Валодзя, трымайся! — падахвоціў Міця і кінуўся на ваду. Праваю рукою ён ашчарэпіў Лёньку за тулава і, падбадзёрваючы Валодзю, паплылі ўсе ўтраіх хутчэй да берагу.

Праз момант Міця і Валодзя вывелі пад рукі знясіленага Лёньку на бераг і сталі памагаць выліваць ваду з вушэй.

— Гэта ўсё беражанкі нарабілі... Каб не яны...—паспрабаваў быў апраўдвацца Валодзя, ды так і не дакончыў. Зірнуў Міцю ў вочы і змоўк: надта-ж непрыемна было перад важатым за зробленую без дазволу адлучку.



# ЛАГЕР імя КОСАРЭВА



*Гарніст Яхніс Лёля будзіць лагер.*

## ЖЫВЁМ ВЕСЕЛА

Наш лагер імя Косарэва знаходзіцца на палянцы між лесу. Летась тут былі піонеры. Тады было толькі шэсць дамоў, а сёлета пабудавалі яшчэ адзін. Хутка пабудуюць і клуб.

Нас тут 280 рэбят з менскіх гарадскіх школ. Жывём весела. Кормяць нас добра. Сталоўка наша чыстая, сталы засланы кляёнкамі, а з бакоў—крэслы.

У нас ёсць два гурткі юных натуралістаў. Мы часта ходзім далёка ў лес. Не так даўно мы знайшлі ў лесе лісіную нару, але лісіцы там не было: мусіць, уцякла. Ловім мошак, матылькоў, жучкоў, конікаў і робім з іх калекцыі, збіраем кветкі.

Нашы настаўнікі Владзімір Пятровіч і Фаня Аронаўна расказваюць нам, як жывуць розныя казяўкі і расліны.

*Барышанская Рыва*

## ЯК МЫ ЗЛАВІЛІ ЯШЧАРКУ

Пайшлі мы аднаго разу на прагулку ў лес. Ідзем так групкай утраіх, бачым, нешта заварушылася на зямлі і схавалася ў норку. Мы адскочыліся ў бок і стаім, баімся: а можа змяя якая... Потым з норкі высадзіла галаву яшчарка. Глядзіць на нас, а мы маўчым. Яна так хвіліну можа глядзела, а потым выскачыла і пабегла.

— Лавем!—крыкнуў я, і кінуўся наўздагон за яшчаркай, а рэбяты за мной.

Злоўленую яшчарку мы занеслі ў шапцы ў лагер, а там яна спатрэбілася нам для калекцыі.

У той дзень і Хана Лоц злавіла была яшчарку, але яна не ўмела яе трымаць. Падняла за хвост, а ён адарваўся і яшчарка ўцякла.

*Эбер Люцік*



*Арка пры ўваходзе ў лагер.*



*З букетамі прыгожых кветак варочаюцца рэбяты з экскурсіі.*

# ЗАЙЧЫК

Са мною ў лагеры быў такі выпадак. Зайшлі мы далекавата ад лагера. Ідзем мы каля поля, гляджу я, скокнуў зайчык і прысеў. Я кінуўся да яго, ён наўцекі, але я ўсёж-такі злавіў яго.

Усім рэбятам зайздросна, а мне радасць, што я злавіў. Прынеслі мы зайчыка ў лагер, а там кажуць, што гэта трусік.

Нам стала дзіўна: як гэта трусік будзе ў лесе жыць? А падвечар прышлі з суседняга калгаса і забралі трусіка,—яны паўцякалі ў іх.

— Памыліўся трошкі,—смяяліся потым з мяне рэбяты.

*Додзя Рапапорт*

# ПІСЬМО СЯБРОЎЦЫ

*„Дарагая Лілечка!*

*Я жыву цяпер у лагеры. Паслалі мяне сюды за добрую вучобу і за выдатную дысцыпліну.*

*У лагеры ў нас вельмі добра, кормяць нас таксама вельмі добра. Мы гуляем у розныя гульні, танцуем, спяваем, ходзім у лес, гушкаемся на качэлях.*

*Нам тут вельмі весела.*

*Пішы, як ты жывеш?"*

***Одзелеўская Ніна***



*На качэлях, у цяньку дрэў.*

ІСКРЫ ІЛЬЫЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЛІПЕНЬ 1936 г. № 7.

**ЦАНА 30 кап.**



# НЯЎЛОЎНЫ ФРЫЦ



1. — Зноў нехта нарысаваў звязду!..




2. — Ніяк яго не зловіш!



3.— Знайсці яго! Знішчыць!




4.— Ды дзе-ж ён, нарэшце?



5.— Правалівай, — сказалі фашысту рабочыя,—не выдадзім нашага Фрыца!

Знайдзі няўлоўнага Фрыца. Ён ёсць на кожным рысунку.

Радактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас радакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20.000 экз. Заказ № 826 Уп. Галоўлітбела № Б—1416